*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

**№ 183 (1996)**

Чацвер, 30 верасня 2004 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Выдавец: УП «Народная воля»

Кошт свабодны.


# Народная Воля


E-mail: nv@promedia.by
http://nv.promedia.by


### Надвор'е

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +14...+16, дождж, магчыма навальніца, уначы — +10...+12, дождж; у Брэсце ўдзень — +12...+14, дождж, магчыма навальніца, уначы — +7...+9, без ападкаў; у Гродне ўдзень — +11...+13, дождж, уначы — +8...+10, без ападкаў; у Віцебску ўдзень — +13...+15, уначы — +9...+11, на працягу сутак — без ападкаў; у Гомелі ўдзень — +14...+16, дождж, уначы — +8...+10, без ападкаў; у Магілёве ўдзень — +15...+17, уначы — +7...+9, на працягу сутак — без ападкаў.

*www.meteo.by*

**ПУЛЬС**

## «Занадта шмат безальтэрнатыўшчыкаў»

Занепакоенасць наконт вялікай колькасці гэтак званых безальтэрнатыўных кандыдатаў у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу выказаў Уладзімір Ядрышчынскі, прадстаўнік місіі назіральнікаў ад краін СНД.

27—28 верасня ён наведаў акруговыя выбарчыя камісіі ў Веткаўскім раёне і ў Гомелі, сустрэўся з некаторымі кандыдатамі ў дэпутаты і лідэрамі палітычных партый.

Разам з тым, адзначыў назіральнік, 27 верасня ён пабываў у чатырох акругах, дзе балатуецца па адным кандыдаце. Выбары без вострай перадвыбарнай барацьбы проста нецікавыя і не прыцягваюць увагу людзей, лічыць У.Ядрышчынскі, а адсутнасць альтэрнатывы можа прывесці да зніжэння выбарчай актыўнасці насельніцтва і, як вынік, выбары ў гэтых акругах могуць не адбыцца.

**Алена ПАСКАННАЯ.**

## Рэгістрацыя кандыдатаў у дэпутаты не была законнай?

Рэгістрацыя кандыдатаў у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў "не была законнай кампаніяй", а стала выкананнем "палітычнага заказу". Такое меркаванне на сустрэчы з журналістамі ў Мінску выказаў каардынатар незарэгістраванай грамадзянскай ініцыятывы "Партнёрства" **Андрэй Астрэйка.**

Паводле інфармацыі "Партнёрства", з 692 прэтэндэнтаў, якія накіравалі свае дакументы ў акруговыя камісіі, кандыдатамі ў дэпутаты зарэгістраваны 401 чалавек. У сярэднім на адзін дэпутацкі мандат прэтэндуюць 3,6 чалавека (у Брэсцкай вобласці зарэгістраваны 67 кандыдатаў; у Віцебскай — 65; у Гомельскай — 44; у Гродзенскай — 35; у Мінскай — 71; у Магілёўскай — 47; у Мінску — 72). Прычым у 10 са 110 выбарчых акруг, паведаміў М.Астрэйка, выбары, "як у савецкія часы, пройдуць на безальтэрнатыўнай аснове.

Па выніках рэгістрацыі, зазначыў каардынатар "Партнёрства", у Цэнтрвыбаркам ад прэтэндэнтаў паступіла каля 200 скаргаў на неабгрунтаваную адмову акруговых камісій у рэгістрацыі. 40 скаргаў былі задаволены Цэнтральнай камісіяй, што, на думку А.Астрэйкі, сведчыць аб нізкім прафесійным узроўні працы акруговых камісій.

**Юрый ПАЦЁМКІН.**

## Бяздомных студэнтаў у нас няма?

Два студэнты, затрыманыя за ўдзел у несанкцыянаванай акцыі "Шэсце бяздомных студэнтаў" у Мінску, прызнаны вінаватымі паводле артыкула 166 Адміністрацыйнага кодэкса Беларусі (супраціўленне супрацоўнікам міліцыі пры затрыманні) і павінны выплаціць па 7 базавых велічыняў (133 тысячы рублёў). Такое рашэнне прыняў 28 верасня суд Маскоўскага раёна Мінска.

Акцыя была арганізавана незарэгістраванай грамадскай арганізацыяй "Задзіночанне беларускіх студэнтаў" (ЗБС). У ёй узялі ўдзел каля 30 студэнтаў беларускіх ВНУ. Яны прайшлі па цэнтры Мінска з прасцінамі, каструлямі, кіпяцільнікамі і іншымі прадметамі, што сімвалізавалі студэнцкі інтэрнат. Перад сабой студэнты неслі раскладушку з надпісам "Хутка зіма, а дома няма...". Мэта акцыі заключалася ў тым, каб прыцягнуць увагу грамадскасці да праблем студэнтаў. Два ўдзельнікі шэсця, якія неслі раскладушку, былі затрыманы супрацоўнікамі міліцыі.

**Вольга АСІПЕНКА.**

## Віцебскіх апазіцыянераў не пускаюць у Палату прадстаўнікоў

Вярхоўны суд Рэспублікі Беларусь адхіліў скаргу дэпутата Віцебскага гарсавета, члена Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) Вольгі Карач аб нерэгістрацыі яе ў якасці кандыдата ў парламентарыі.

Тым часам вядомы праваабаронца Валерый Шчукін, якога знялі яшчэ на самым пачатку перадвыбарнай дыстанцыі, працягвае агітацыю супраць датэрміновага галасавання. На днях Шчукін быў зноў затрыманы віцебскімі міліцыянтамі падчас распаўсюджвання ўлётак. На праваабаронцу склалі пратакол аб нанясенні ўрону дзяржаве, грамадскаму парадку, правам і інтарэсам грамадзян. *"Як прыватная асоба я маю права агітаваць супраць рэферэндуму і выказваць сваё меркаванне аб палітычных падзеях, якія адбываюцца ў нашай краіне,* — тлумачыць Шчукін. — *Але ўжо ў які раз у Гарадской камісіі па рэферэндуме Віцебска ў мяне адмаўляюцца прыняць адпаведную заяву, мяне затрымліваюць падчас выказвання грамадзянскай пазіцыі. Любое меркаванне, што адрозніваецца ад "дзяржаўнай лініі", у нашай краіне непрымальнае і адразу выкараняецца".*

**Міраслава МІРАНОВІЧ.**



**ЧУЛІ?**

# Зінаіда Бандарэнка пераязджае ў Смаргонь



***Учора Цэнтрвыбаркам урэшце зарэгістраваў Народную артыстку Беларусі кандыдатам у дэпутаты. А ўжо сёння Зінаіда Аляксандраўна ад'язджае ў сваю выбарчую акругу.***

Пасяджэнне ЦВК распачалося ў сераду ў 11 гадзін. Што тычыцца разгляду скаргі Зінаіды Бандарэнка, то на гэты раз усё адбывалася літаральна пяць хвілін. Супрацоўнік Цэнтральнай выбарчай камісіі, які вывучаў скаргу былой тэлевядучай, прапанаваў зарэгістраваць яе кандыдатам у дэпутаты. І ўсе члены камісіі аднагалосна прагаласавалі "за".

Між іншым, у сераду на пасяджэнне ЦВК не прыехаў старшыня Смаргонскай акруговай камісіі **Валер Бацько**. Можа, таму, што аб'ектыўна не мог назваць яшчэ якія-небудзь падставы, каб ЦВК мог адмовіць Бандарэнка ў рэгістрацыі.

*"У чацвер вечарам ад'язджаю у Смаргонь, дзе затрымаюся да 17 кастрычніка,* — адразу пасля пасяджэння ЦВК сказала Зінаіда Бандарэнка. — *У нас і так засталося толькі 16 дзён на агітацыю. Праграма ў мяне ёсць. Але, на мой погляд, улічваючы, што 17 кастрычніка адначасова з выбарамі будзе праводзіцца рэферэндум, задача ўсіх кандыдатаў тлумачыць людзям, што такое рэферэндум і як ён небяспечны для будучыні Беларусі".*

За дэпутацкі мандат Зінаідзе Бандарэнка давядзецца сапернічаць з **Таццянай Голубевай** — зараз дэпутатам Палаты прадстаўнікоў, намеснікам старшыні камісіі па жыллёвай палітыцы, будаўніцтве, гандлі і прыватызацыі, **Алесем Дзергачовым** — індывідуальным прадпрымальнікам, сябрам партыі БНФ "Адраджэньне", а таксама **Валерам Батурыным** — сябрам Партыі камуністаў Беларускай.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

**ВЕДАЙ НАШЫХ!**

## Сабраў камп'ютэр за... пяць хвілін

Прадстаўнікі Беларусі ўвайшлі ў дзесятку лепшых зборшчыкаў камп'ютэраў у Расіі.

Фінал II Адкрытага агульнарасійскага чэмпіянату кампаніі Gigabyte па зборцы камп'ютэраў прайшоў у мінулыя выхадныя ў Маскве. У ім удзельнічалі больш за 20 чалавек. Усе яны — пераможцы адборачных тураў рэгіянальных спаборніцтваў з 14 гарадоў Расіі, а таксама з Беларусі. Ад нашай краіны бралі ўдзел 22-гадовы Андрэй Малочка і 23-гадовы Аляксандр Скрыцкі. Яны атрымалі такую магчымасць упершыню, стаўшы пераможцамі І Беларускага чэмпіянату па зборцы камп'ютэраў на хуткасць.

Як паведамілі БелаПАН у кампаніі CD-Life, фінальныя спаборніцтвы па зборцы камп'ютэраў праходзілі 25 верасня ў маскоўскім клубе "Джэм". Чэмпіянат прайшоў вельмі паспяхова для абодвух прадстаўнікоў Беларусі, якія ў выніку ўвайшлі ў дзесятку пераможцаў расійскага чэмпіянату. Аляксандр Скрыцкі заняў 7-е месца, сабраўшы свой камп'ютэр за 5 хвілін 4 секунды, а Андрэй Малочка заняў 10-е месца, паказаўшы час 5 хвілін 47 секунд. Пераможцам жа фіналу другі год запар стаў масквіч Ігар Ушакоў з вынікам 3 хвіліны 55 секунд.

Пераможцам чэмпіянату былі ўручаны спецыяльныя прызы: за першае месца — ноўтбук, за другое і трэцяе — камплект найноўшага камп'ютэрнага абсталявання.

**Аляксей АРЭШКА.**

**КАДРЫ**

## Вызвалены...

Указам А.Лукашэнкі генерал-маёр міліцыі Віктар Басалыга вызвалены ад пасады начальніка ўпраўлення ўнутраных спраў Мінскага аблвыканкама, паведаміла прэс-служба кіраўніка дзяржавы.

В.Басалыга ўзначальваў УУС Мінаблвыканкама з 1994 года. Яму 55 гадоў. Аб прычынах адстаўкі афіцыйна пакуль не паведамляецца. У аддзеле інфармацыі і грамадскіх сувязяў УУС не выключылі, што яна, магчыма, звязана з пераходам Віктара Басалыгі на іншую працу.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

**ВІНШУЕМ!**

## Ігар Якіменка — настаўнік года

*Пераможцам рэспубліканскага конкурсу "Настаўнік года — 2004" стаў выкладчык інфарматыкі Магілёўскага абласнога ліцэя Ігар Якіменка, настаўнік вышэйшай катэгорыі з 12-гадовым педагагічным стажам.*

Суперфінал спаборніцтва праходзіў 28 верасня ў Акадэміі паслядыпломнай адукацыі ў Мінску. У ім бралі ўдзел лепшыя педагогі краіны — 21 пераможца абласных конкурсаў. Падчас заключнага этапа спаборніцтваў лепшым настаўнікам краіны трэба было праявіць свае здольнасці ў педагагічным брэйн-рынгу, правесці міні-ўрок на сцэне, а таксама прэзентаваць і абараніць уласны адукацыйны праект "У той час як ..., я (мы) ...".

У конкурсе ўзялі ўдзел 3 тысячы педагогаў.

**Вольга АСІПЕНКА.**
**Фото photo.bymedia.net**

**РАЗОБЛАЧЕНИЕ**

# Планы по мифам у нас тоже перевыполняются

**Александр КЛАСКОВСКИЙ**

На политическом рынке самый ходовой товар сегодня — мифы. Дорого яичко к Христову дню. Канун референдума, сами понимаете.

В итоге новейшая история Беларуси предстает сплошной фантасмагорией.

Нам сообщают, например, что национальная экономика в начале 90-х была разрушена экспериментами горе-рыночников. Молодой Беларусью правили дикие националисты. Русские сидели на чемоданах. Отделялось Полесье. (По другой версии, злые недруги хотели оторвать и присоединить к Польше Западную Беларусь.)

На этом фоне совсем уж невинными фантазиями кажутся утверждения типа того, что на первые президентские выборы в 1994 году "от власти шли Шушкевичи и Кебичи".

Да, что касается Вячеслава Кебича, то в авантюрную, как оказалось, затею с президентством он ввязался, действительно будучи главой Совмина. Фактическим хозяином страны. А вот демонизированный впоследствии Станислав Шушкевич в 1991-1994 годах был всего лишь спикером. То есть человеком, ведущим заседания в парламенте. На том его реальные полномочия фактически исчерпывались.

В скромности влияния спикера на хозяйственную жизнь автор этих строк имел возможность убедиться, ведя с ним прямые линии в телеэфире.

У зрителей были популярны вопросы типа — а правда ли, что завтра поднимутся цены на хлеб (масло, колбасу и т.д.)?

"Не знаю", — искренне отвечал Шушкевич.

Назавтра цены поднимались.

Это решали в Совмине. И не считали нужным хотя бы из соображений политкорректности предупреждать главу Верховного Совета (с которым у Кебича отношения были непростые). Пусть, мол, выставится незнайкой или двуличным. А в это время народный телеграф уже разносил слух о новых ценниках...

Потом всех собак за гиперинфляцию повесят, однако, на бывшего парламентского лидера. Потому вероятно, что, в отличие от Кебича, он не найдет понимания с новой верхушкой.

А выступать кандидатом от власти на выборах-94 Шушкевич не мог по одной простой причине. За полгода до этого его "ушли" с должности спикера. Поводом стало знаменитое дело о ящике гвоздей, инициированное Александром Лукашенко — тогда главой антикоррупционной комиссии Верховного Совета.

К слову, этот свой статус далеко не последнего человека в высшем законодательном органе Лукашенко подчеркивал и во время предвыборной кампании 1994 года. Так что тезис о его прорыве во власть прямо из народных недр, из глубокой оппозиции тоже представляется уязвимым.

Ну а кто же тогда, в начале 90-х, дал волю бесшабашным рыночным экспериментам? Неужели уважаемый Вячеслав Францевич Кебич? Да из него же в ту пору все политические оппоненты делали жупел махрового консерватизма — красный директор, застойное мышление и все такое!

Наконец, "дикий разгул национализма" выражался в наличии парламентской фракции БНФ. Они себя так и называли — "Апазыцыя БНФ у Вярхоўным Савеце". Объясним специально для некоторых комментаторов: оппозиция — это те, кто в меньшинстве. Править страной они не могли по определению.

Был, правда, момент, когда номенклатурное большинство Верховного Совета сидело тише воды ниже травы. И повиновалось речам Зенона Пазьняка, словно дудочке крысолова. Эта дивная картина наблюдалась в 1991 году после провала путча.

Тогда многие деятели из числа поддержавших ГКЧП уже мысленно сушили сухари за компанию с Янаевым. Как в дурном сне, проголосовали за так ненавистный им ныне бело-красно-белый флаг. А вносил его в Овальный зал депутат Александр Лукашенко.

Вот вам и весь "шабаш националистов".

Интересно исследовать и еще один миф. О неуклонном росте долларового эквивалента средней зарплаты в президентскую эру.

Экскурс в недавнюю историю показывает, что этот показатель достигал 125 долларов на финише 1995 года, когда во главе Нацбанка стоял Станислав Богданкевич. Ныне, заметим, почетный председатель оппозиционной ОГП.

Зато в 1999 году, то есть на исходе первой президентской пятилетки, когда все враги были уже вроде как разгромлены, средняя зарплата ухнула вдруг в глубокую яму — до 37 долларов.

Но об этом в государственных СМИ — молчок. И на сайте Министерства статистики вы напрасно будете искать динамику средней зарплаты в столь любимом ныне пропагандой долларовом измерении. Вместо этого предлагается некий таинственный показатель "реальной заработной платы".

Она дается не в рублях и не в тугриках, а сугубо в процентах к предыдущему периоду. И всегда получается прибавка. Даже в 1999-м. Чудеса!

В Минстате автору этих строк резонно заметили, что *"мы же зарплату не в долларах получаем"*. И добавили, что для исчисления отечественных заработков в заокеанском эквиваленте нет надлежащей методики. Надо же, мол, и нашу инфляцию учитывать, и стоимость потребительской корзинки, и все такое.

Золотые слова!

Из них следует, что пропаганда пользуется исключительно ненаучной, манипулятивной методикой. Когда рост зарплат в пересчете на "американские рубли" преподносится безо всякого соотнесения с ценовым галопом за те же годы.

Хорошо, а где найти правду об исторических событиях 90-х годов?

**Николай Сташкевич,** руководитель Института истории Национальной академии наук, сказал в интервью *"Белорусским новостям"*: серьезных, объективных работ, посвященных этому периоду, мало. Преобладают, говорит маститый ученый, книжки *"апологетического характера"*.

Версию о без пяти минут отделившемся Полесье директор академического института интеллигентно назвал *"фантомом"*. Столь же скептично оценил он и правдоподобность заговора, направленного на отрыв Западной Беларуси. Мол, даже если бы кто и преподнес Варшаве эти земли на блюдечке, там бы шарахнулись, *"потому что европейские хартии закрепили незыблемость границ"*.

Что касается достоверных сведений о недавнем прошлом нашей страны, то, в общем-то, *"многое есть в томах "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі"*, добавил Сташкевич. Но все это *"рассеяно"* по разным мелким статьям.

К тому же, заметим мы, трудно себе представить, чтобы рядовой потребитель пропагандистского продукта поминутно лез в энциклопедию: правду толкуют или же — "поздравляю вас, господин соврамши"?

А потом, тираж *"Энцыклапедыі гісторыі Беларусі"* — всего-навсего 10 тысяч экземпляров. Тогда как электората у нас — под семь миллионов.

Да и не так просто порой отделить зерна от плевел.

*"Миф ведь представляет собой не только и не столько ложь, сколько смесь правды и вымысла,* — отметил в интервью "Белорусским новостям" известный аналитик **Юрий Дракохруст.** — *Действительно, в начале 90-х Беларусь переживала существенные трудности. И действительно, часть из них преодолена".*

Другое дело, продолжает собеседник, что через подобный кризис прошли и другие постсоветские, посткоммунистические страны. Причем многие государства смогли выбраться из ямы иными, более удачными способами.

По словам аналитика, общественное сознание не настолько рационально, чтобы избегать примитивной логической ловушки: "После этого — значит, вследствие этого". И вообще, Александр Лукашенко прав, когда говорит: память у людей короткая. Например, мало кто помнит, что все разговоры о полесской автономии заглохли еще до начала президентской эры.

Так что заслуги нынешней власти в укрощении доморощенного сепаратизма нет ни грана. Как не было, добавим, и самого сепаратизма. А была игра определенных сил как раз таки охранительного толка (но это уже отдельная тема).

Впрочем, *"историю, как известно, пишут победители"*, замечает Юрий Дракохруст. И вопрос в другом: насколько велик потенциал пропагандистской мифологии?

В этом смысле, считает аналитик, любой власти не стоит обольщаться. Да, простой человек не силен в истории. У него может быть короткая память. Но вот купюры в своем кошельке он считает очень даже четко.

*"Люди, что называется, добра не помнят,* — иронизирует собеседник. — *Они скажут: спасибо, конечно, что спасли от врагов и ужасов, но..."*. И далее может последовать конкретный перечень претензий.

В общем, вопросы к власти, по мнению эксперта, электорат склонен предъявлять не по поводу неуклюжей мифологии, а в связи с трудными проблемами сегодняшней жизни.

И сколько бы пропаганда ни пыталась, например, отгородить Беларусь от Европы мифом (опять-таки мифом!) о некой особой восточнославянской цивилизации, жизнь возьмет свое и здесь. Просто народ убедится: в Европе — лучше. И отмежевываться от нее — нелепо.

*"У нас ведь, в отличие от индийцев или персов, мало некоего особого неевропейского содержания",* — замечает аналитик. Скорее можно вести речь о своего рода *"отклонениях от Европы"*. И потому на вопрос о европейском выборе Беларуси *"ответ в конце концов будет позитивным"*, считает Юрий Дракохруст.

*("Белорусские новости".)*

**ИЗ ПОЧТЫ ГЛАВНОГО РЕДАКТОРА**

*Главному редактору газеты «Народная воля» И.П.Середичу*

В связи с сообщением информационного агентства БелТА об иске Министерства юстиции о ликвидации республиканского общественного объединения "Белорусский Хельсинкский Комитет" (далее БХК) полагаем необходимым сообщить следующее.

Согласно Уставу, главной целью БХК является защита в Беларуси прав и свобод человека, гарантированных Конституцией, действующим законодательством, декларированных Хельсинкскими соглашениями, другими международными договоренностями о правах человека. Среди методов деятельности БХК — организация независимой общественной юридической экспертизы законодательных и подзаконных актов Республики Беларусь на предмет соответствия соглашениям и законодательству о правах человека; воздействие на общественное мнение в области соблюдения прав человека.

За весь период деятельности (с.1.11.1995 г.) БХК имел только два предупреждения Министерства юстиции, не отмененных судом. Причем с момента вынесения последнего предупреждения (за отсутствие кавычек в названии организации на бланке) прошло более года.

Проведя экспертизу Указа Президента от 7 сентября 2004 г. о назначении республиканского референдума, БХК сделал соответствующее публичное заявление и обратился в компетентные государственные органы с целью его отмены.

Заявление БХК не содержит призывов к насильственному изменению конституционного строя, пропаганды войны, социальной, национальной, религиозной и расовой вражды. В нем также нет призыва к невыполнению законодательства страны. Напротив, БХК напомнил государственным органам о главенстве Конституции и необходимости действовать в соответствии с законодательством Беларуси.

Подобные напоминания являются основой работы правозащитников во всех странах и не могут квалифицироваться как неправомерное вмешательство в деятельность государственных органов.

БХК и в дальнейшем будет действовать строго на основании Устава и в соответствии с действующим законодательством и международными обязательствами Республики Беларусь.

**Т.С.ПРОТЬКО,**
**председатель**
**РОО "Белорусский Хельсинкский Комитет".**

## Тихий захват Минском российского телевидения

5 октября в Москве пройдет очередное заседание Совета министров Союза России и Беларуси. Среди множества экономических проблем будет проанализирована работа телерадиовещательной компании Союзного государства. Белорусская сторона, по нашим данным, подготовила серьезный демарш, который преследует только одну цель — смену нынешнего руководства компании.

Эта проблема поднимается белорусами с удивительным упорством, начиная с мая 2004 года уже в четвертый раз. Дело в том, что председателем телерадиовещательной организации Союзного государства является представитель России, его заместитель — из Минска. Финансируется компания на 70% также Россией, белорусская сторона за все годы существования компании отделывалась только незначительными финансовыми затратами.

До определенного момента белорусские власти помалкивали, но сейчас в Минске, видимо, решили проглотить этот жирный идеологический кусок. Согласно двустороннему договору, телеканал Союзного государства вещает на частоте РТР. Именно здесь выходила программа "Москва — Минск", в которой ситуация в Беларуси описывалась в самых радужных красках. Если белорусским властям удастся протащить на место председателя союзной телекомпании своего человека, не трудно представить, кто станет центральной фигурой всех программ этого канала. Тем более что похожую операцию Минск уже удачно провернул, правда, пока только с газетой союзного парламента "Союзное вече". Теперь в России на российские же деньги выходит газета, прочитав которую остается только сожалеть о том, что Александр Лукашенко — не президент Российской Федерации.

**Павел СМИРНОВ.**

**АДКРЫТЫ ЛІСТ**

## Я — заклікаю!

Калі я пачуў, што Асноўны закон збіраюцца перарабіць у інтарэсах аднаго чалавека, каб ён мог стаць вечным прэзідэнтам, мяне быццам маланкай стукнула. Чалавек, які, можна сказаць, у апазіцыі да ўсяго беларускага — мовы, сімволікі, гісторыі, самага дарагога, што ёсць і можа быць у тытульнай нацыі, — не мае права далей кіраваць краінай.

Дарагія людзі, я звяртаюся да ўсіх, хто перажывае за лёс Бацькаўшчыны, за наш род, давайце скажам "Не!" гэтаму чалавеку. Хопіць ганьбіць усё наша роднае, святое, тое, што дадзена нам Богам.

Жыве Беларусь!

**Мікола ЦЯЛІЦА,**
**шафёр з 48-гадовым стажам, пенсіянер, жыхар Мінска.**

*Бурачкі вы мае, бурачкі...*

Фота photo.bymedia.net

## Памежнікі і мытнікі Беларусі і Польшчы аб'ядналіся на «Варшаўскім мосце»

З 1 кастрычніка пагранічныя і мытныя службы Беларусі і Польшчы пачнуць ажыццяўляць сумесны кантроль на беларускім баку пагранпераходу "Варшаўскі мост — Цярэспаль". Пра гэта паведаміў начальнік мытні "Заходні Буг" Вячаслаў Осінцаў.

Паводле яго слоў, прыняцце гэтага рашэння звязана з тым, што большая частка Цярэспальскага тэрмінала зачыняецца на доўгі час на рэканструкцыю. "Наш пагранпераход будзе працаваць у фармаце "7+1". На тэрмінале ў Цярэспалі застанецца толькі адна польская памежна-мытная група, чатыры кантрольныя сумесныя беларуска-польскія групы стануць працаваць на выезд з нашай краіны і тры групы — на ўезд", — сказаў В.Осінцаў.

Змены таксама закрануць працу пагранічных і мытных службаў на грузавых пагранпераходах.

**Ларыса ШЫГАНАВА.**

## Пасольства Германіі адчыняе новы консульска-прававы аддзел

3 кастрычніка ў Мінску, па адрасе праспект газеты "Правда", 11, адбудзецца адкрыццё новага будынка консульска-прававога аддзела пасольства ФРГ у Беларусі. Пра гэта паведаміў пасол Германіі ў Беларусі Марцін Хекер на прэс-канферэнцыі, прымеркаванай да Дня германскага адзінства.

Паводле слоў дыпламата, адкрыццё ў Мінску новага будынка консульска-прававога аддзела пасольства сведчыць аб імкненні ФРГ дынамічна развіваць дачыненні з Беларуссю. "Пасольства Германіі ў Беларусі займае чацвёртае месца сярод дыпламатычных прадстаўніцтваў ФРГ па колькасці штогод выдаваных віз, колькасць якіх перавышае 100 тысяч", — сказаў пасол.

Ён адзначыў, што неабходнасць новага будынка консульска-прававога аддзела выклікана цеснатой і нязручнасцямі старога памяшкання, ад чаго ў першую чаргу пакутавалі беларускія грамадзяне. "У адкрыцці новага будынка возьме ўдзел намеснік дырэктара палітычнага аддзела федэральнага МЗС Ульрых Брандэнбург — самы высокапастаўлены чыноўнік знешнепалітычнага ведамства ФРГ, які наведае Беларусь у апошні час", — сказаў пасол.

**Марат ГАРАВЫ.**

ПРИНЦИПИАЛЬНЫЙ ВОПРОС

# Почему Козик боится профсоюза РЭПАМ?

Четыре года назад Международной организацией труда возбуждено дело о нарушении прав трудящихся в Беларуси. Весной нынешнего года в Минске побывала комиссия МОТ, в составе которой были юристы самой высокой квалификации. Ее цель — оценка ситуации в Беларуси с правами профсоюзов. Учитывая, что комиссия была создана в соответствии с положениями Устава МОТ, ее выводы будут определять дальнейшую политику стран мирового содружества в отношении Беларуси.

Несмотря на настоятельные рекомендации МОТ о прекращении ограничений прав трудящихся на свободу объединений, руководство страны усиливает репрессии против независимых профсоюзов. Ратифицированные Беларусью Конвенции МОТ 87 и 98 по свободе ассоциаций грубейшим образом нарушаются, игнорируются.

Очевиден факт, что белорусскому режиму нужны управляемые профсоюзы, встроенные в общегосударственную бюрократическую систему. Они, я считаю, сейчас и представлены Федерацией профсоюзов Беларуси во главе с Леонидом Козиком и входящими в нее отраслевыми профсоюзами и региональными объединениями. ФПБ превратилась в организацию еще одного государственного контролера за состоянием массового сознания.

Поразительно, но факт остается фактом, сейчас уже Козик заявляет, что у ФПБ нет вопросов к правительству. Я думаю, что острых, жизненно важных вопросов и не будет никогда, потому что правительство и руководство ФПБ служат одному хозяину. Ему служат и организации работодателей, которые впали в крайне жалкое состояние. У нас известно всем, что работодатель и хозяин один — Лукашенко, и ФПБ служит ему. Какая уже тут профсоюзная защита. Неужели тот же Козик или кто бы то ни был из нынешних председателей отраслевых профсоюзов или даже председателей профкомов в действительности будет защищать интересы работника? Ведь такая позиция может стоить им достаточно теплых и высоко оплачиваемых мест. Вот и получается, что работники за свои же деньги содержат эту армию профсоюзных боссов и чиновников, которым интересы этих работников в принципе чужды, опасны и безразличны.

Опасность, как для нашего главного работодателя, так и для козиковской Федерации, представляют самодеятельные организации трудящихся — независимые белорусские профсоюзы. Против них ведется тотальная война на полное уничтожение. Ведь любая, даже малочисленная профсоюзная организация вызывает у власти и ФПБ страх и реакцию на подавление любыми способами. Членов независимых профсоюзов донимают угрозами об увольнении, увольнении их родственников, им не доплачивают зарплату, тормозят профессиональный и производственный рост или, наоборот, стремятся подкупить, чтобы вывести из организации.

На предприятиях есть кому этим заниматься. Созданы многочисленные команды идеологов, зарплата которых ложится на себестоимость продукции.

Особое раздражение властей и руководства ФПБ вызывает профсоюз РЭПАМ (радиоэлектронной промышленности, автомобилестроения, металлообработки, других отраслей народного хозяйства). Он образовался на IV съезде профсоюза РЭП путем внесения изменений в Устав этого профсоюза. Затем к РЭПАМ присоединились организации и члены профсоюза АСМ и других профсоюзов, пожелавшие быть в независимой организации.

Консолидация независимого профдвижения испугала ФПБ. Несмотря на то, что Министерство юстиции зарегистрировало изменения, внесенные в Устав РЭП, и признало профсоюз РЭПАМ, председатель ФПБ Козик стал добиваться пересмотра решения. По имеющейся информации, он заручился резолюцией Лукашенко на своем "доносе". Есть причины думать, что на основании этого росчерка Администрация президента заставила министра юстиции издать приказ № 239 от 16.07.2004 г. и через три месяца отменить решение о регистрации. Сам по себе этот факт беспрецедентен, курьезен и является примером попрания законов.

Естественно, Совет профсоюза РЭПАМ обжаловал приказ Минюста в Верховном суде.

Вся международная общественность возмущена преследованиями профсоюза РЭПАМ. Профсоюз РЭПАМ является членом Международной Федерации металлистов (МФМ).

Я — член Исполкома МФМ. В то же время профсоюз АСМ исключен из МФМ. Вокруг государственных профсоюзов, вокруг ФПБ формируется круг международной изоляции. В цивилизованных странах избегают контактов с профсоюзными объединениями, стоящими на службе у диктаторов. А ФПБ стало одним из таких объединений.

Все документы по преследованию профсоюза РЭПАМ переданы в МОТ. Международные профсоюзные организации организовали и начинают акции поддержки и солидарности с профсоюзом РЭПАМ. Заявление о поддержке профсоюза РЭПАМ и с протестом действиям белорусских властей принял XXXXIX Конгресс профсоюза металлистов Швеции.

Несмотря на репрессии, независимое движение Беларуси не уничтожить. Не удалось же Гитлеру, Муссолини, Пиночету и другим диктаторам подавить рабочее и профсоюзное движение. Эти режимы создавали государственные подчиненные организации типа нацистского Трудового фронта Германии или фашистских профсоюзов Италии, или ВЦСПС, или, как в нашем случае, — ФПБ, но будущее не за ними. Тоталитарные режимы разрушаются и исчезают в недрах истории, а рабочее и профсоюзное движение сохраняются во времени и живет борьбой за интересы людей труда.

Рано или поздно, но рабочий человек, сознательный работник, приходит в свою организацию и вместе с ней защищает свои права. Профсоюз РЭПАМ, как все независимое профсоюзное и рабочее движение, будет действовать в интересах людей труда. Наше движение будет расти и усиливаться, несмотря на весь беспредел лукашенковского режима. Демагогией, идеологическим зомбированием в подчинении и бесправии нельзя долго держать рабочих, особенно в центре Европы.

Все, кто желает быть свободным работником, вступайте в профсоюз РЭПАМ, и вместе мы отстоим свои права на лучшую жизнь.

**Александр БУХВОСТОВ,**
**сопредседатель профсоюза РЭПАМ.**

ПУЛЬС

## Два чалавекі за адзін дзень кінуліся пад поезд метро

На 9 хвілін быў спынены рух цягнікоў па другой, Аўтазаводской, лініі Мінскага метрапалітэна з-за падзення на рэйкі мужчыны на станцыі "Маладзёжная".

Як паведамляе прэс-служба МНС, пацярпеўшы параніў твар. З месца здарэння яго адвезлі ў Дзевятую клінічную бальніцу.

Гэта другі за 28 верасня выпадак падзення на рэйкі ў метро. А 7-й гадзіне раніцы, нагадаем, на станцыі "Плошча Леніна" Маскоўскай лініі метрапалітэна пад цягнік кінулася 54-гадовая жанчына з Віцебскай вобласці. Такім чынам яна хацела развітацца з жыццём, але засталася жывая і з цяжкай чэрапна-мазгавой траўмай, пераломам грудзіны і шматлікімі ўдарамі была дастаўлена ў адну з мінскіх клінік.

**Дзмітрый БЕЛЬСКІ.**

## Дапамаглі ахвярам...

Каля 10,5 мільёна рублёў пералічылі ахвярам трагедыі ў горадзе Беслан (Паўночная Асеція, Расія) супрацоўнікі Камітэта па праблемах наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС пры Савеце міністраў Беларусі і арганізацый, падпарадкаваных камітэту.

Як паведамілі БелаПАН у прэс-службе Камчарнобыля, на сходах працоўных калектываў было вырашана пералічыць суму ў памеры аднадзённага заробку на спецыяльны дабрачынны рахунак, прызначаны для збору сродкаў у фонд дапамогі ахвярам тэрарыстычнага акта ў Беслане. Найбольш значныя сумы на спецрахунак пералічылі супрацоўнікі Палескага дзяржаўнага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка, рэспубліканскага навукова-даследчага унітарнага прадпрыемства "Інстытут радыялогіі" і рэспубліканскага навукова-вытворчага унітарнага прадпрыемства "Белінвесткамплект".

**Марат ГАРАВЫ.**

## «Элькіна мара» — супраць жаночага трафіку

28 верасня ў Мінску прайшла прэзентацыя дакументальнага фільма "Элькіна мара". Фільм зняты ў рамках Праекта Еўрапейскага Саюза і Праграмы развіцця ААН "Барацьба з гандлем жанчынамі ў Беларусі", што фінансуецца Еўрапейскай камісіяй.

Аўтар сцэнару і рэжысёр — Марыя Маліноўская. Фільм, паводле яе слоў, адрасаваны прафілактычнай рабоце сярод насельніцтва: карціна змяшчае інфармацыю для групы рызыкі (маладых дзяўчат і жанчын па працы за мяжой, інфармацыю аб метадах гандлю людзьмі, а таксама звяртае ўвагу на праблему нелегальнай міграцыі, жыццё дзяцей з нешчаслівах сем'яў.

Дабрачынныя паказы фільма "Элькіна мара" пройдуць у кінатэатрах краіны, а таксама на тэлебачанні. Акрамя таго, у рэгіёнах Беларусі будуць арганізаваны тэматычныя акцыі для маладзёжнай аўдыторыі па прадухіленні гандлю жанчынамі.

## У Германію — за «прыгодамі»...

Грамадскае аб'яднанне "Беларуская асацыяцыя маладых хрысціянскіх жанчын" ("БАМХЖ") падвяла вынікі дзейнасці гарачай лініі "Ла Страда" для жанчын па пытаннях бяспечнага выезду і знаходжання за мяжой.

Так, за 3 гады і 8 месяцаў работы — са студзеня 2001 па жнівень 2004 года — паступіла 6 тысяч 335 тэлефанаванняў.

На аснове атрыманых званкоў можна зрабіць выснову, што найбольш папулярнымі краінамі выезду для беларускіх жанчын з'яўляюцца Германія (15,4 працэнта), Італія (6,4 працэнта), Вялікабрытанія (5,5 працэнта), Кіпр (5,4 працэнта) і ЗША (5,4 працэнта). Усяго геаграфія выезду ўключае 65 краін, у тым ліку дастаткова экзатычныя для Беларусі — Йемен, Буркіна-Фасо, Малі, Перу, ПАР, Іарданія, Мексіка, Ямайка і Пакістан.

У патэнцыйную групу рызыкі ўваходзяць беларускія жанчыны ва ўзросце ад 21 да 40 гадоў, якія хочуць паехаць за мяжу на заробкі або ў якасці жонкі, часта ўсведамляючы пры гэтым, што згаджаюцца на сумніўныя прапановы.

**Вольга АСІПЕНКА.**

## «За апошнія 10 гадоў узровень інфляцыі ў Беларусі склаў каля 480 працэнтаў», — лічыць прафесар Нікітчанка

Паводле слоў І.Нікітчанкі, зыходзячы з такога ўзроўню інфляцыі, пакупніцкая здольнасць цяперашняй зарплаты беларусаў у сотні разоў менш, чым у 1995 годзе. "Беларусь уваходзіць у групу краін з даходам насельніцтва ніжэй за сярэднееўрапейскі ўзровень. Калі ў Беларусі валавы нацыянальны даход на душу насельніцтва складае 1590 долараў ЗША ў год, то ў нашых суседзяў (сярэдні паказчык па ўсіх сумежных з Беларуссю краінах) — 3047 долараў. Тое ж тычыцца і зарплаты. Паводле заяў Аляксандра Лукашэнкі, сярэдняя зарплата па краіне складае 165 долараў у эквіваленце, а паводле звестак экс-старшыні Нацыянальнага банка Станіслава Багданкевіча, пацверджаных статыстычнай справаздачнасцю, — 125 долараў", — сказаў вучоны.

Ён таксама адзначыў, што Беларусь працягвае закупаць за мяжой больш харчовых прадуктаў, чым экспартаваць сваіх. У першым паўгоддзі гэтага года, у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага, на 18,5 працэнта павялічыўся імпарт у Беларусь збожжа, мукі, крухмалу, на 71,2 працэнта — мяса і харчовых субпрадуктаў, на 54,4 працэнта — прадукцыі крупяной і мукамольнай прамысловасці".

Паводле слоў прафесара І.Нікітчанкі, знешні доўг урада і прадпрыемстваў Беларусі дасягнуў 4,5 мільярда долараў ЗША, прычым толькі за першае паўгоддзе гэтага года ён павялічыўся на 756 млн. долараў.

**Марат ГАРАВЫ.**

НЕПРИЧЕСАННОЕ ПИСЬМО

# Как прожить на 120 тысяч начинающему врачу?

Взяться за перо меня заставили чудовищные потоки агитации в пользу референдума во всех государственных СМИ.

Я закончил медицинский университет летом этого года и теперь, как и другие выпускники, прохожу стажировку, чтобы в дальнейшем сдать экзамен и получить сертификат, дающий право на самостоятельную врачебную деятельность.

За август я получил зарплату 112 тысяч рублей: оклад 112 тысяч плюс 10% за стаж (6 лет учебы) и минус налоги и профсоюзные взносы. Когда я сдам экзамен и получу сертификат, мой оклад вырастет до 118 тысяч. Именно столько он составляет у врачей терапевтического профиля. Правда, еще есть премии и надбавки за категорию и вредность.

А.Лукашенко, объявивший референдум, уверяет, что к концу года средняя зарплата в Беларуси достигнет 195 долларов. Но он ничего не говорит, как прожить на 120-140 тысяч в месяц начинающему врачу. Подработать? Но это официально запрещено — у стажеров нет сертификата на право самостоятельной работы. (Правда, в ноябре ожидается повышение зарплаты для бюджетников. Но если это и случится, я получу эти деньги лишь к католическому Рождеству).

Как молодому парню содержать семью и на какие деньги растить даже одного ребенка? Как решить проблему с жильем? Зарплаты едва хватает, чтобы оплатить квартплату, не говоря уже о приобретении собственной квартиры.

Может, просить милостыню? Это не просто унижение, это плевок в сторону тех, кто 6 лет учился в одном из самых сложных вузов страны.

Как вы думаете, можно ли говорить о высоком качестве работы врача, вынужденного брать 2 ставки, чтобы свести концы с концами? Будут ли у него силы, время и желание повышать свою квалификацию?

Учителям и педагогам в нашей стране уже несколько лет ежемесячно доплачивают по 7500 рублей на приобретение методической литературы. А врачам — ни копейки, хотя в медицине постоянно появляются новые методы и схемы лечения, основанные на доказательной медицине, новые лекарственные препараты, новые технологии. Может, кто-то решил, что врачам и не надо знать о достижениях медицины "буржуазных" стран. Ведь Лукашенко прямо заявил, что не поведет свою страну за цивилизованным миром.

Например, больница, в которой я работаю, в своем развитии, как и по оказанию медицинской помощи, так и по оснащению и материально-технической базе, остановилась на 80-х годах прошлого века. Доступны только примитивные лабораторно-инструментальные исследования, которые не могут дать всей необходимой информации. Да и вообще, многие ли аппараты для эхокардиографии имеют цветной допплер, значительно расширяющий диагностические возможности?

В любом учебнике по медицине указывается необходимость индивидуального подхода к лечению. А в Беларуси есть "перечень жизненно необходимых препаратов", которые всегда должны быть в лечебном учреждении. Но реально в профильном отделении есть не более 1-3 препаратов одной фармакологической группы. Что уж говорить о непрофильных отделениях...

Такая работа очень напрягает: приходится не только часто менять назначения, но и объяснять пациентам, что в больнице есть не все необходимые препараты, и диктовать им список, часто включая в него даже шприцы и капельницы. Хочешь лечиться — покупай. Бесплатных шприцев и систем для инфузий не хватает. Естественно, что большинство пенсионеров не может себе позволить необходимое лечение в полном объеме. Например, большинство сердечно-сосудистых препаратов надо принимать пожизненно. Как следствие, увеличивается частота госпитализаций и длительность лечения в стационаре. Соответственно увеличиваются и расходы на здравоохранение.

Теперь о нехватке врачей. Есть много сельских врачебных амбулаторий, где за несколько лет не было ни одного врача. Почти в любой поликлинике не хватает врачей. Работают или пенсионеры, привыкшие к своему участку, или вчерашние выпускники вузов, которые попали сюда по распределению и теперь всеми правдами-неправдами стремятся перейти работать в стационар.

Вас, наверное, удивит, если я скажу, что в Беларуси много врачей. Просто до 50% выпускников медицинских вузов не работают по специальности. Они уходят из медицины в другие места с более высокой оплатой. Видимо, наше государство считает, что дешевле обучить двоих, чем достойно платить одному. Для справки: стоимость одного года обучения в медуниверситете составляет 1,1-1,5 тысячи долларов.

У нас слишком мало желающих работать в таких условиях за нищенскую зарплату. Но даже эту зарплату медработники получают не в полном объеме. Я перечислю только часть сборов, которые приходится "добровольно" жертвовать: лотерейные билеты (как минимум 1 билет на человека каждые 1-2 месяца), обязательная подписка на 2-3 экземпляра газет на всех работающих в одном отделении больницы (здесь на выбор: "СБ", "Народная газета", "Рэспубліка", местная официальная газета, изредка "Медицинский вестник"), пожертвования в Фонд мира и т.д.

Последний "писк" — поборы для пострадавших в Беслане. 1-3 тысячи рублей с каждого. По-моему, в самой России уже достаточно насобирали. Но белорусским врачам тоже приходится платить за результаты имперской политики России. Конечно, можно настоять на своем и не заплатить. Но работать вам останется ровно до того момента, пока не закончится контракт. С вами его уже не продлят...

Подводя итоги 10-летнего срока правления Александра Лукашенко, смею заявить, что при нынешней организации государственной медицины больные не могут получить качественное лечение (особенно в небольших городах), а медработники вынуждены едва сводить концы с концами. Качественная медицина не бывает дешевой, а тем более бесплатной.

И еще один факт — с 1994-1995 гг. население Беларуси уменьшилось с 10,4 миллиона до 9,8 миллиона. Президентские СМИ говорят о "страшной разрухе" в 1991—1994 годах, доставшейся первому президенту. Но, как ни странно, тогда население Беларуси увеличивалось. А с 1995 года — стабильная убыль. В мирное время! Это и есть самый важный итог политики Лукашенко.

**Врач-стажер,**
**Минская обл.**

**P.S.** ***Огромная просьба к редакции не указывать мои имя и фамилию, т.к. город у нас небольшой и я, и мои родители, работающие по контракту на государственных предприятиях, станут безработными.***

Фото photo.bymedia.net

# У шэрагу са «Славянскім базарам» і «Дажынкамі»

*Увесь мінулы тыдзень другі паверх Нацыянальнага выставачнага цэнтра на вуліцы Янкі Купалы займала экспазіцыя выставы «Беларусь праваслаўная»*

Арганізатар выставы, мясцовы Экзархат Рускай праваслаўнай царквы, дэкляраваў яе мэту як "демонстрацию национальных духовных и православных традиций Белорусской Православной Церкви, а также зарубежных епархий". Узначальваў аргкамітэт сам мітрапаліт Філарэт. Удзел у гэтай акцыі бралі акрамя беларускіх епархій прадстаўнікі мітраполій з Латвіі, Польшчы, Расіі, Украіны, ЗША. На выставе спявалі праваслаўныя хоры, гучалі званы, ладзіліся прэзентацыі царкоўных друкаваных выданняў, працаваў кіна-відэасалон. Была шырока прадстаўлена манастырская вытворчасць — ад ікон і тканін да прадуктаў харчавання. Дзеля важнасці нагоды на выставе тры дні экспанаваўся "воссозданный" крыж Еўфрасінні Полацкай. Паралельна з выставай на Янкі Купалы, 27 шэраг культурніцкіх акцый праваслаўнага зместу ладзіўся і на іншых пляцоўках. Фактычна на працягу тыдня ў сталіцы адбываўся не абы-які фэст праваслаўнай культуры. Ягоны размах і прадстаўнічасць сведчаць пра тое, што арганізатары хацелі б у духоўным жыцці краіны аслупаваць за "Беларусью православной" дзялянку накшталт той, якую ў шоу-бізнесе трымае Віцебскі "Славянскі базар", а ў палітычнай сферы - "Дажынкі".

Сам факт правядзення такой акцыі сведчыць, што мясцовая філія РПЦ, нягледзячы на свой адвечны кансерватызм, імкнецца не адставаць ад жыцця і, хай паціху, але прыстасоўваецца да новых рэалій. Рускае праваслаўе, якое традыцыйна пільна аберагае свой унутраны лад і знешні вобраз ад стіхіі рэальнага жыцця, нарэшце спрабуе, так бы мовіць, ісці ў народ. Разам з тым, паколькі палітычная кан'юнктура ў нашым краі склалася на карысць Уладыкі Філарэта і ягонай каманды, ён імкнецца напоўніцу скарыстаць прэферэнцыі з боку дзяржаўнай улады. Сёння немагчыма ўявіць сабе фэст нацыянальнага маштабу пад назвай "Беларусь каталіцкая" ці "Беларусь пратэстанцкая", а "Беларусь праваслаўная" — калі ласка!

І ўсё ж новае бачанне свету, адаптацыя на сучаснасць даюцца РПЦ з цяжкасцю. Адчуваецца адсутнасць палітычнага і культурніцкага досведу, які, напрыклад, ёсць у тых жа каталікоў і пратэстантаў. Гэта не столькі віна, як бяда Рускага праваслаўя. Лічы, усё XX стагоддзе яно знаходзілася на абочыне цывілізацыі, выштурхнутае туды бальшавіцкім пераваротам 1917 года. Таму сёння РПЦ нагадвае хворага, які ачуняў пасля доўгага летаргічнага сну. У ягонай галаве блукае няўцямны ўспамін аб далёкай мінуўшчыне, а навакольная рэальнасць для яго чужая і незразумелая.

Сучаснасць абмінула РПЦ. У сваім развіцці Рускае праваслаўе па сутнасці спынілася на 1917 годзе. Зірніце на праваслаўныя храмы, пабудаваныя ў Расіі і Беларусі за апошнія гады. Гэта рэтра-стыль. У лепшым выпадку яны паўтараюць узоры "псеўдарускай" архітэктуры канца XIX стагоддзя, а можа нават сягаюць яшчэ глыбей — у Масковію XVII стагоддзя. Акупаваўшы ідэалагічную нішу, якую пакінула КПСС, РПЦ пераняла ад бальшавікоў таталітарнае мысленне. Прыкладам гэтага служыць сённяшняя барацьба мітрапаліта Філарэта супраць аднаўлення праўдзівага аблічча старога Мінска. Ягоная логіка зразумелая: прамаскоўскім артадоксам непрыемна бачыць, што гістарычны цэнтр сталіцы "праваслаўнай" РБ набывае свой сапраўдны, а значыць — выразна заходні, каталіцкі выгляд. РПЦ няўтульна ў еўрапейскім асяродку. Уладыка Філарэт афіцыйна звярнуўся з просьбай да кіраўніцтва горада не узнаўляць на Верхнім горадзе (плошчы Свабоды) будынак, які месціўся каля самага Святадухавага сабора (цяняр - праваслаўны, ад пачатку - каталіцкі храм) і быў знесены зусім нядаўна, а таксама разбураны уніяцкі сабор. Замест уніяцкага сабора Уладыка хацеў бы бачыць на ягоным падмурку расійскую праваслаўную капліцу. Гэта, маўляў, трэба, каб "захаваць пэўную дыстанцыю храмавай сакральнай прасторы ад будзённага жыцця горада". Тое, што без гэтых будынкаў Верхні горад не будзе цэльным архітэктурным комплексам, мітрапаліта не хвалюе. Ён па-бальшавіцку "цягне коўдру на сябе".

Іншы прыклад. Прыгадаем выставу сучаснага беларускага царкоўнага жывапісу (яна праходзіла ў Нацыянальным мастацкім музеі). Ні на крок ад сярэдневяковага канону! А вось у Польшчы праваслаўныя вернікі не баяцца замаўляць будаўніцтва і аздобу сваіх храмаў творцам з насамрэч сучасным мысленнем. Узорам спалучэння візантыйскай культурніцкай традыцыі і архітэктурнага досведу XX стагоддзя з'яўляецца праваслаўны храм Троіцы ў Гайнаўцы (Беласточчына).

Літаратура, што была прадстаўлена на выставе "Беларусь православная", у асноўным уяўляла сабою апалагетыку Расійскай імперыі. Асабліва эксплуатуецца тэма трагічнай смерці апошняга імператара і ягонай сям'і. Гэтыя ахвяры бальшавіцкага тэрору зараз кананізаваны Рускай праваслаўнай царквою. Зразумела, што тэма пакутніцтва знойдзе водгук у сэрцы кожнага нармальнага чалавека. Я прыдбаў на той выставе брашуру "Цесаревич", прысвечаную памяці царэвіча Аляксея. Балюча глядзець на фатаграфіі царскай сям'і, чытаць наіўныя радкі загінуўшага ў чатырнаццаць год спадкаемца прастолу: "Когда я буду Царём, не будет бедных и несчастных. Я хочу, чтобы все были счастливы". Толькі клопат РПЦ аб памяці нявінных ахвяр кепска стасуецца з фотадакументамі, прастаўленымі ў экспазіцыі выставы. На здымках — Уладыка Філарэт з Сіваковым і Паўлічэнкам, службоўцамі, чые імёны многія людзі ў нашай краіне, а таксама Парламенцкая асамблея Рады Еўропы, звязваюць са знікненнем палітычных апанентаў рэжыму. Я далёкі ад таго, каб рабіць нейкія высновы, перш чым іх зробіць суд. Але мне як праваслаўнаму верніку брыдка бачыць майго мітрапаліта ў атачэнні асобаў, якіх падазраюць у злачынстве.

Афіцыйная прапаганда запісвае ў праваслаўныя вернікі ці не 80 працэнтаў насельніцтва нашай краіны. Лічба відавочна завышаная. І ёсць яшчэ адна акалічнасць, якая бярэ пад сумнеў права РПЦ выступаць ад імя беларускай нацыі. Праваслаўныя вернікі ў Беларусі збольшага сталыя і старыя людзі. Моладзь выбірае альбо атэізм, альбо неартадаксальнае хрысціянства. Дарэчы, наведвальнікамі "Беларуси православной" былі ў асноўным людзі паважанага веку.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ.**

